# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

| № 2 (7) | Красавіка 1922. | год 2. |
|---|---|---|

## СЕЛЯНЕ!

**Наша сіла—ў арганізаванасьці нашай.**

**Ўступайце ў рады змагаўнікаў за Бацькаўшчыну.**

**Помніце, што зямлю і волю можна дабыць толькі сваімі ўласнымі сіламі!**

**16 Красавіка 1922 г.**

## Вялікдзень.

„Селянская Доля" сэрдэчна вітае чытачоў у вялікі дзень Уваскрэсеньня Хрыста.

Хрыстос уваскрос! даражэнькія чытачы!



Гэтае святое вітаньне сеньняка пакрывае увесь сьвет,—і зямлю і неба, і лясы і паля, і зоркі і хмуры. І вецер вольны пяець: Хрыстос Уваскрос.

І птушкі і толькі што выглянуўшая з маткі зямлі пасьля студзенай зімы траўка і расьліна і кожная

хрысьціянская душа радасна адчуваюць ў кождым дыханьні вольнага ветру, у кождым патаемным уздоху маткі зямлі вялікую тайну уваскрэсеньня.

Радуецца ўвесь сьвет... Ня плач і ты, братко-беларус, веруй і надзейся! Твоя матка Беларусь разкрыжавана ворагамі — суседзямі яна, як ва дні оны Хрыстос, цяпер на Галгофе, на крыжу. Яе падзелілі злыя суседзі—ворагі, тыж быццам—та завуцца хрысьціяне, ў крыжа яе паставілі аружную сваю сілу і цяжка зьдзекуюцца над ей, як тады над Хрыстом: Як маеш сілу, сайдзі, кажуць, з крыжа...

Зьдзекуюцца, бо думаюць, што пахавалі яе і нават магілу яе прыпечаталі зладзейскай печаткай Рыжскай умовы.

Ня плач, братко—беларус! Даволі сьлез! Цярпі, веруй і надзейся! Цярпеў і Хрыстос, цярпеў мукі, пабоі, цярновы вянок; цярпеў раны, голад і холад; цярпеў няволю і зьдзек. Нес Ён на Сабе на Галгофу цяжкі свой крыж, падаў пад ім, абліваючысь крывёю і потам.

На Галгафе Ён быў разкрыжаваны, але не ўмёр, ба ўмёр і на трэцці дзень уваскрос ў вялікай сіле і славе.

Ўваскрэсьнець і наша родная, наша сьвятая матка - Бацькаушчына Беларусь.

Уваскрос Хрыстос, і разсыпаліся ворагі Яго. Ўваскрос Хрыстос, і пакрыліся на векі вечныя сорамам зладзеі, крыжаваўшыя Яго.

Ўваскрос Хрыстос, і згібла сіла ворагоў Яго, і толькі ўспаміны ганебныя асталіся аб іх. Дык станецца і з тваімі варагамі, Беларускі народ. Прыйдзе час, і ён ўжо блізко, калы Бог ўваскрэсіць разкрыжаванае цело маткі—Беларусі, і зноў згуртуецца і абеднаецца ўвесь Беларускі народ і зажыве вольным жыцьцем, жыцьцем свабоды, шчасьця і незалежнасьці ад ворогаў, якія згінуць і разыйдуцца, як расходзіцца дым ад дыханьня ветру.

Веруй, што так будзе! Крапісь, мужайся, братко-беларус, не згубляй надзеі!

Сустрэчай Хрыстоў Вялікдзень, як Анельскую вестку аб блізкім збаўленьні нашай Бацькаушчыны Беларусі ад злых ея ворагаў—неразумных, жастокіх палякаў і бяздушных маскалеў.

Хрыстос ўваскрос, браткі-Беларусы! Радасьць ўваскрашэньня Хрыста хай прынясе ўсім нам Беларусам новыя сілы дзеля ўзмацненьня нашай барацьбы з ворагамі за свабоду, незалежнасьць і непадзельнасьць нашай Бацькаушчыны Беларусі. Ўваскросшы Хрыстос нявідзіма з неба благаслаўляець нас на сьвятую працу адбудаваньня і адраджэньня нашай айчызны. Як пасьля лютай зімы, зямля скідаець аковы марозаў і з новай сілай, як адроджэная, дае жыцьце кожнай жывеле і кожнай расьліне дык і Беларускі народ пераэкыўшы лютыя гадзіны паняволяньня і зьдзеку, з новай сілай выйдзе на шлях вольнага нацыянальнага жыцьця, благаслаўляючы тых, хто стаў ў першыя рады змаганьнікоў за свабоду Бацькаўшчыны. Благаслаўляючы і тых, хто шчыра, як добры друг, працягнуў нам сваю руку і падтрымаў нас у той час святой барацьбы за права і вольнасьць.

Хрыстос Ўваскрос! браткі! Радуйцеся Ўваскрашэньню Хрыста і ўзмацняйце ў сябе надзею на ўваскрашэньне маці—Беларусі! **В.**

**Толькі той достойны праўды і волі, хто кожны дзень ў змаганьні яе здабывае!**

# Дэкларацыя

## УРАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА ЧАЦЬВЕРТУЮ ГАДАЎШЧЫНУ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.

**25. III. 1918—25. III. 1922.**

Доўгія сталецьці зьдзекаваліся і гняті нас чужынцы—грабілі, абдзіралі, запрагалі у ярмо. Крывёй нашай прасякла беларуская зямля, сьлязьмі прагорклі нашы воды. І ўбачылі, зразумелі і пераканаліся лепшыя сыны нашай многапакутнай бацькаўшчыны, што ня будзе жыць ляпей беларускі гаротны народ да таго часу, пакуль ён не стане гаспадаром у сваей роднай староньцы, ня будзе жыць ляпей датуль, пакуль ён будзе хадзіць у ярме, а чужынцы будуць панаваць над ім.

Гэтай думкай кіруючыся, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выпаўняючы волю Першага Ўсебеларускага З‘езду, у Менску, у гэтым сэрцы паўстаўшай да новага жыцьця Беларусі, скінуўшай апошнія кайданы няволі маскоўскага царызму, 25. III. 1918 г. выдала Устаўную Грамату, абвешчаючы наш край вольнай і незалежнай народнай Рэспублікай.

Гэтым векапомным актам, прэдстаўнікі беларускага народу сказалі: чужога ня хочам—сваё беражом. мы, беларусы-гаспадары на сваей зямлі. Гэтым актам яны падалі кліч на ўсю Беларусь бароц-

ца за сваю зямлю, за сваю волю, за сваю ад ніколі незалежную дзяржаву.

Абвешчаючы незалежнасьць свайго роднага краю, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі спакладала свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсьціць яго нацыянальна-дзержаўныя ідэалы: устанавіць на беларускай зямлі народна-рэспубліканскі лад, п редаць зямлю бяз выкупа тым, хто сам на ей працуе, устанавіць васьмігадзінны дзень працы, свабоду слова, друку, сходаў, забастовак і хаўрусаў, бязумоўную свабоду сумлення, незачэпнасьць чалавечай асобы і памешканьня, цьвёрда устанавіць і ўцэлаісьціць усе грамадзкія, культурныя, рэлігійныя і палітычныя свабоды, прэдаставіць кожнай нацыянальнай меншасьці ў краі, праз сбабодна выбраныя нацыянальныя установы, поўнасьцю разьвіваць сваю родную культуру і, на раўне з дзержаўнай беларускай мовай, ужываць іх мову ва ўсіх дзержаўных установах рэспублікі.

У гэнай Устаўнай Грамаце, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, рашуча пратэставала супроць Берасьцейскай мірнай умовы падзяліўшай на часьці Беларусь. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі станоўча заявіла, што ўсе старыя зьвязі, устанаўляныя насільствам маскоўскага царызму, даўшыя магчымасьць і Савецкай Расіі падпісаць за Беларусь мір у Берасьці—гэныя зьвязі трацяць уселякую моц.

Толькі сам беларускі народ, нз сваім свабодна выбраным Усебеларускім Устаноўчым Зборы, можа аканчальна вырашыць сваю долю і, кіруючыся сваімі жыцьцёвымі інтарэсамі, ўвайсьці ў тую або іншую свабодную сувязь з сваімі суседзьмі на аснове раўнапраўных старон.

Гэтакія былі паложаны падваліны ў аснову дзержаўна-незалежніцкага жыцьця вольнай Беларусі.

Беларусь хацела быць у згодзе з сваімі суседзямі, імкнулася працаваць на карысьць свайго эканамічнага і культўрнага адраджэньня.

Але сталася інакш чымся думалі лепшыя сыны Беларусі.

Імпэрыялістычныя суседзі, карыстаючыся часовай перавагай сваіх збройных сіл, напалі на родны наш край, у моры крыві і сьлёз затапілі справядлівыя дамаганьні працуючых Беларусі.

З канца ў канец праходзілі нашу Маці—Беларусь чужацкія наездцы-акупанты. Руйнавалі нацыянальныя багацьці, сьніштажалі народны дабрабыт, грубай сілай штыка і кулямёта устанаўлялі свае парадкі гвалту, зьдеку і самаўпраўства.

Турмы і канцэнтрацыйныя лагяры перапоўняны беларускай інтэлігэнцыей, сьвядомымі работнікамі і селянствам.

Няма тае хаты дзе-б ня было бязвінай ахвяры жорстка замучанай акупантамі.

Аднак,—ня гледзячы на ўвесь нечуваны тэрор акупантаў, беларускі народ ні на адну хвіліну ня спыняў сваей упартай барацьбы.

У цэлым радзе паўстаньняў беларускі народ даказаў чаго ён жадае і да чаго як мага імкнецца.

Беларускі народ жадае быць вольным, жадае быць самаістым гаспадаром у сваім родным краі!

Выбраны Радай Беларускай Народнай Рэспублікі Урад праз увесь час моцна трымаў у сваіх руках сьцяг змаганьня за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі.

Але найбольш яскрава выявілася імкненьне беларускага народу да волі і незалежнасьці пад час паўстаньня ў Случчыне ў лістападзе і сьнежні 1920 года.

Слуцкае паўстаньне—гэта быў пратэст беларускага народу супроці Рыжскага міру паміж Савецкай Расіей і Польшчай, каторыя, выходзячы з прызнаньня права народаў на самаазначаньне, прызналі, ў пункце першым таго-ж Рыжскага догавару, незалежнасьць Беларусі, а пасьля—незалеж-

...вую Беларусь паміж сябе падзялілі, разарвалі на часьці жывы народны арганізм.

Ня гледзячы на тое, што Слуцкае паўстаньне было задушана з двух бакоў, гэта ё: маскоўскімі і варшаўскімі імпэрыялістамі—яно застаецца пуцяводнай зоркай у гісторыі беларускага высвабадзіцельна—адраджэнскага і дзержаўна-незалежніцкага руху.

І вось, ад 25. Ш. 1918 г., ужо чацьвёрты год змагаецца беларускі народ за сваю волю і незалежнасьць. Многа лепшых сыноў Беларусі палягло за гэту сьвятую справу. Многа праліта за гэтыя чатыры гады бязьвінай беларускай крыві на палёх няроўняга змаганьня. Мы ня йшлі забіраць чужое, мы чатыры гады натужалі сілы нашы баронючы сваю зямлю, сваё дабро, свой гонар чалавечы ад тых, каторыя да нас прыйшлі грабіць і падняволіваць.

От-жа, Берасьцейскі мір дзяліўшы Беларусь на часьці самым жыцьцём ужо скасаваны. Рыжскі мір яшчэ трымаецца. Але недалёка той дзень, калі і Рыжскі мір будзе скасаваны. Гэты дзень не за гарамі. Надыходзя час, калі скрозь хмары цёмныя загляне к нам яснае сонца праўды і волі.

А пакуль не настане час вызваленьня, няхай кожны беларус сам сабе скажа: не здамся крыўдзіцялю ворагу! Ня схілю сваей галавы ў чужацкае ярмо!

Няхай яшчэ дзень—другі, няхай яшчэ год барацьбы, але церад намі воля і незалежнасьць. І вызвалім Беларусь! І скінем чужацкія ёрмы!

Народзе Беларускі!

Твая доля ў тваіх уласных руках. Справа вызваленьня і адраджэньня тваей бацькаўшчыны—гэта ёсць справа тваіх мазольных рук.

Цясьней гуртуй свае рады пад сьцяг змаганьня за волю і незалежнасьць тваей Бацькаўшчыны.

Адзінай арганізаванай грамадой магутны дай атпор тваім крыўдзіцелям.

Толькі ў еднасьці і арганізаванасьці наша моць і сіла.

Не арганізованыя выступленьні павіны быць спененыя.

Больш веры ў сябе, ў свае сілы!

Сьвяткуючы чацьвёртую гадаўшчыну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі моцна верыць у творчі розум беларускага народу і заклікае стаць у рады актыўных змагароў усіх тых, хто ня хоча быць нявольнікам, хто сваё жыцьцё гатоў аддаць за волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Слава паўшым змагарам у няроўным баю!

Слава мучанікам, што тамяцца, ў зьненавіджаных вастрогах акупантаў, за вызваленьне бацькаўшчыны!

Няхай жыве беларуская народная рэвалюцыя!

Прэч з Рыжскім мірам!

Няхай жыве Беларускі працоўны народ!

Няхай жыве вольная, незалежная і непадзельная Беларусь!

**Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.**

25. III. 1922 года.

# Нацьвёртая гадаўшчына.

Дзень 25 сакавіка павінен стаць гістарычнымі днем, днем нацыянальнага сьвята беларусаў, сьвята беларускага адраджэнчэскага руху.

25 Сакавіка 1918 году беларускі народ, вустнамі сваіх прэдстаўнікоў, абабраньня на ўсебеларускім кангрэссе, ў сьнежню 1917 года, выразна выявіў волю і апавесьціў усім, што ён, беларускі народ, сам жадае быць гаспадаром на сваей бацькаўшчыне; сам будзе нарыхтоўваць свой дзержаўны лад і сваю дзержаўную гаспадарку; сам, на умовах з сваімі суседзямі, будзе праводзіць свае дзержаўные межы і ў рэшці, па згодзе з суседзямі, сам будзе устанаўліваць свае ўзаема-адносіны.

Выяўленьне сувэрэнай волі народам ёсьць найвыдатнейшы момэнт у жыцьцю народа—ёсьць адзнака народнай моцы, адзнака, што народ адчувае сябе дарослым, как без апекуноў—чужынцаў весьці сваю дзержаўна-палітычную справу.

У грамаце, абвешчаючай незалежнасьць, беларускі народ адзначыў, што ён не вызнае расейска-нямецкай Берасьцейскай умовы, падзеліўшай Беларусь паміж расейцамі і нямцамі; што ад часу, як скінута ганебная царская Улада, Расея ня мае права рабіць умовы ад імя і за кошт беларускага народу.

Скасаваньнем царызму пачалося новае жыцьце нараду, быўшых раней пад Расеей.—

Адбыўшаяся ў Расеі рэвалюцыя дала ўсім, быўшым пад Расеей народам новыя правы: панство ўжо ня маюць права рабіць умову ад імені ўсяго грамадзянства. Пасьля рэвалюцыі права устанаўліваць дзержаўны лад і рабіць дзержаўныя умовы належыць усяму народу, праз вольна выбраных ім прэдстаўнікоў.

Такім чынам на Беларусі стаў гаспадарыць паправу народ Беларускі.

З 25 Сакавіка 1918 году поўнапраўна Беларускі народ пачаў сваё незалежнае дзержаўнае будаўніцтва.

Чатыры гады прайшло ад таго часу і трэба сказаць, што беларускі народ ня ведае падарункаў ад сваей долі.—Народы быўшай Расеі, стаўшы вольным, не пажадалі каб такім самым вольным народам быў братні ім народ беларускі. І Расея і Польшча пачалі кіравацца да таго, каб падпарадкаваць беларускі народ сваім уплывам і ўрэшці накінуць яму сваё панаваньне.

Абяздоляны вайною раскіданы у бежансьцьве па вялікім абшарам Расеі, Беларускі народ не здалеў згуртаваць у час столькі сілы, каб застерагчы свае межы; не здалеў даць адпор накінуўшымся на яго з двух бакоў заборчым сусёдзям.

Расейцы і палякі не патрафілі лагодна падзяліць паміж сабой застаўшу-

юся ім дабычу.—Каля двух гадоў яны вялі бойку за тое, каму ці Расійцам, ці палякам панаваць на Беларусі. У рэшці, нарабіўшы шмат новых перашкод беларскаму народу падзелілі, у Рызе беларускую зямельку.

Так склаліся факты жыцьця. Але паглядзім як выглядаюць яны з правага боку.

У Берасьці бальшавікі, аддаючы Беларускія абшары немцам, не лічыліся з беларускім народам,—недапусьціўшы беларускіх прэдстаўнікоў на перагаворы, яны без уселякай размовы аддалі Беларускую зямельку немцам, як бы сваю—Расейскую.

У Рызе, калі перагаворы адбываліся пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі бальшавікі, як перэняўшыя правы Расеі ад царызму, заявілі, што яны вызнаюць, адбыўшаеся ў 1918 гаду, самаадзначэньне Беларускага народу. Дзякуючы чаму ў пачатак польска-расейскай умовы запісана:—„прызнаецца незалежнасьць Беларусі“.

Гэтыя тры словы, маючыяся ў Рыжскай Міравой Умове, робяць апошнюю, ў вачах усяго сьвету, умовай гвалту і насільства; бо не можна па міжнарадовам законам, вызнаўші незалежнасьць той, або іншай дзержаўнай адзінкі, разам з тым, без згоды гэтай адзінкі, шматаваць яе абшары.

Жыцьце знішчыло Берасьцейскаю мову. Мы верым, што таксама будзе знішчана і, відавочна неправідловая, гвалтовная Рыжская Расейска - Польская умова; Што будзе усім сьветам вызнано права беларускага народу на самаурадаваньне.

Беларускі народ дачэкаецца належачага яму па праву сьвята.

Цяперака скажым шчыраю падзяку тым, хто, у час, сумеў бараніць правы Беларускага народу, хто даў магчымасьць і на будучыню змагацца за праы Беларускага народу на свае дзержаўнае урадаваньне на бацькаўшчыне.

Беларускі народ права на жыцьце ты дастаеш з бою будь-жа на варце тваіх дзержаўных інтарэсаў. Незалежнасьць і непадзельнасьць тваё відавочнае права, нададзенае, як сучаснай эпохай так і тваёй яскрава выяўленай воляй.

Пара гвалту і насільства хутка мінуе. Тваё грабіцелі, прадзіктаваўшыя Рыжскую Умову за зьдзекі над табою, будуць мець сорам у вачох усяго сьвету.

Хай жыве незалежная і непадзельная Беларусь!

Слава змаганьнікам за правы Беларускага народу.

**Далоў акупанты Беларусі! хай жыве братэрство працоўнага люду!**

# НАЛІВАЙКА.

Налівайка сын пінскага мешчаніна, радзіўся ў гор. Астрагу, дзе старшы брат яго, Дземьян, быў прыдворным сьвяшчэнікам у князя Канстантына Астрожскага.

Ў 1595 гндзе ён, бачучы паневоленьне Беларусі і Украіны палякамі, падняў аткрытае паўстаньне. Войска Налівайкі хутка павялічалася: ад-усюль зьбегаліся да яго беларускія і украінскія селяне. Нішчучы паноў і здраднікаў, Налівайка з Валыні скіраваўся на Беларусь. Горад за горадам здаваліся. Ў хуткім часе зяўладзеў ён Пінскам, Рэчыцай, Старадубам, Быхавам, Новазыбкавам, і Магілевам. Другая група беларускіх паўстанцоў заняла Оршу, Вітэбск, Лепэль, Полацак. З Рэчыцы Налівайка паслаў пісьмо каралю Зыгманту Ш, у каторым, пад варункам надзелу зямлей паустаўшых і некаторых рэлігійна-палітычных Уступак, прапанаваў спыніць змаганьне. Кароль ў адповедзь на ліст выклікаў войска з. Малдавіі і дапаручыў польскаму гэтману Жолкеўскаму задушыць паўстаьня, ахапіўшы ўсю Беларусь і заходную часьць Украіны, дзе такжа падняліся селяне пад кіраўніцтвам Лабады. Паўстанцам прышлося цяжка, і яны злучыўшыся падаліся на другі бераг Днепра. У маю 1596 году паўстанцоў палякі акружылі каля Лубен, пры весцы Саланіцы. Паўстанцы абгарадзіліся вазамі ў чатыры рады і больш двох тыднеў вытрымлівалі аблогу. Пачаўся голад і недастача вады, пайшлі ўнутраныя супярэчкі. Скора пасьля гэтага казакі, ашуканыя панскімі абецанкамі, пастанавілі выдаць Налівайку і другіх, сам свае старшыні, Жолкеўскаму думаючы гэта ўратаваць сябе жыцьце. Налівайку адправілі ў Варшаву, дзе яго шляхта жыўцом спекла ў жалезным быку, а здаўшыхся ў няволю казакоў выразала.

# Паход Налівайкі.

Па Валыні, Беларусі
Плывуць хмары небесамі; —
Ой, не хмары—Налівайка
Надцягае с казакамі.
Ад Сматрыча аж да Немна,
А ад Немна да вод Бугу
Ясна, відна, грозна стала
На зямліцы на разлогу.
І ярамі, і лясамі
Песьні звонка паліліся:
„Будзе воля, будзе доля,
Як за збрю мы ўзяліся“.
А над войскам, над казацкім
Ляціць сокал, ў круг крылуе,
Бо паўстанску песьню слаўну
Сокал знае, народ чуе.
„Ой, зямліца, слаўна маці,
„Горкі сьлезы доўга ліла,

„Покуль сокала быстрога,
„Налівайку парадзіла.
„Пазьлеталі ўсе арляты
„З Беларусі, Украіны:
„Ідуць маці вызвляці
„С пад няволі, с пад руіны.
„Ужо-ж панове, ўжо-ж ляхове,
„Не пышаце, не гардзеце:
„Былі мукі, а заплату
„Раскаваны дадуць дзеці“.
Відна ўсюды, шлях вяселы:
Гарыць сьвечкай не штодзенай,
На палацах запылала
Не васковай.... стораменай!
„Атамане..... Атамане!....
Наша слава—твая слава,
Налівайка—бацька, пане,
Вядзі там, дзе рэзь крывава!....
Гэй на Днепры ясны хвалі,
А за Днепрам край шырокі;
Сярод лесу кош казацкі,
У кошу гэтман чорнавокі.
Стаіць гэтман, бы той сокал,
Варанога аглядае;
Сьперся гэтман на кульбаку,
Думы—думанькі гадае
„Коню, кары атаманскі,
„Коню жвавы, коню скоры,
„Панясеш ты свайго пана
„Ў сьвет шырокі, ў край пра торы!
„Коню кары, коню жвавы,
„Будзе полька ця карміці,
„Будзе, горда дочка, сена
„І вадзічанку насіці.
„А за мукі Беларусі
„Польшча кроўю збагранее,
„Ад Славуты аж па Нёман
„Панскі гонар спаланее“.
Стаіць гэтман, бы той сокал,
Варанога аглядае,
Сьперся, быстры, на кульбаку
Думы—думанькі гадае....
Вашы хілыя заставы
Не задзержаць вольнай лавы,
Што ракой шырокай льецца,—
Ўсе раўно яна праб‘ецца!
Знайце, вашы камяніцы
Як бы трэскі, ці драніцы
Панясе яна з сабой;
Знайце, каты духа й цела,
Нашы словы грозны—сьмелы!
Вы будуеце падпоры
На сваю пагібель, гора,
Не ўстаяць яны прад сілай,
Стануць вам яны магілай!
Ў вамі-ж створаным пагосьце
Спархнеюць вашы косьці.

**Н. Н.**

**Помні, беларусь, што польскі пан твой адвечны вораг.**

# Казкі для ўзрослых.

## I. Шашок.

Апрануўшы канфэдэратку і прыпаясаўшы да левага боку крывую, шаблю, польскі шашок пайшоў лізаць віленшчыну. З языка пацекла кроў; шашок цешыўся, лізаў, думаў, што віленшчына крывей еплыве, але пакуль што кроў плыла з пакалечанага языка.

На польскі язык і віленшчына—сталевы напільнік.

## II. Асел у скуры льва.

Жэлігоўскі напрануў на сябе скуру збунтаванага польскага гэнерала, каб заваеваць віленшчыну. Куры і, нават, коні сьмеяліся: з пад бунтарскай скуры відаць было пакорнага польскага асла.

## III. Лісіца і вінаград.

Польша глядзела з Варшавы на Вільню і ўсе думала як яе злопаць. Мудравалася каля Вільні, як сучка пры паравозе, нават і Сойм склікала. Але Вільня і ў той бок не глядзіць. Тады Варшава сказала „Э, мы заўседы былі за вольную волю,—ніхай яна пры нас аўтаномнай будзе“.

## IV. Воўк і каза.

Бачыць Польша, што Літва сытна жыве і німа як да яе прыступіцца; дык кажэ: „давай мы з табой аб'еднаемся, давай памірымся я цебе сваей культурай надзялю“.

А Літва кажэ: „не на тоя ты мяне да сябе вабіш, ты не аб маім, а аб сваім сыцьці турбуешся“.

## V. Куртатая лісіца.

Папалася наша шляхта ў польскую пасадку: за польскія ацяробкі здрадзіла сваю бацькаўшчыну. Пасьля аглядзелася і стала яна думаць, якбы свой сорам прыкрыць. Давай цягнуць за сабой селян, давай склікаць сходы і угаварываць: „Кньце сваю мову, здраджайце бацькоўшчыну, прадавайцеся ворогам“....

Слухалі, слухалі селяне шляхту, а урэшце сказалі:—„Ой, не казалі бы вы ўсяго этага, каб самі перш не сталіся здраднікамі“.

## VI. Сем раз адмер, а раз адрэж.

У Рызе нейкія дабрадзеі падзяліліся Беларусьсю. Падзяліўшы чужоя дабро, хацелі спакойна сесьці беларусам на каркі. Беларус пачаў брыкацца. І отъ лямантуюць дабрадзеі, што беларус благі.

Слухаў, слухаў гэтых ляментацый бусел, седзючы ў гняздзе і кажэ: „Бязглуздыя вы! Калі-б у вас было гэтулькі розуму сколькі прыроднай хціваcьці, тобы вы перш, чым грабіць чужое, падумалі бы, як будзеце жыць з абрабаваным народам“.

## VII. Курыца і вужачыя яйкі.

Некаторыя научыўшыся па панску, пачалі заступацца за панскую мову. Прыляцела на вясну ластаўка з выраю, паўзіралася на навіны ў Беларусі і кажэ: „От, дурныя людзі! Раз бачыла я за морам, як курыца сядзела на вужачых яйках: вужакі вылупіўшыся з яек яе-ж першую і пакусалі. Так і вам будзе, неразумныя людзі“.

**Юр. В—.**

# Арганізацыя Беларускай Моладзі.

К свабодзе, роўнасьці і знаньню,
мы працярэбім сабе сьлед (і будзе
ўнукаў панаваньне). Там, дзе сягоньня
стогне дзед.

**Янка Купала.**

Арганізаванае жыцьцё беларускай моладзі, як ведама, распачалось у вагні вялікай рэвалюцыі на ўсходзе Эўропы ў 1917 году, калі узварушылася ўсё грамадзкае жыцьцё, загаманіла, веснавым руччом паняслося ўсё без удзержу наперад „да зор, да сонца залатых“.

З пачатку арганізацыйная праца не надта наладжвалася, ўсё неяк ішло стыхійна, хаотычна то сям, то там паяўляліся гурткі моладзі нічым паміж сябе не зьвязаныя, але з часам арганізацыя пачала наладжавацца і ў сьнежні 1917 года, гэта пад час Першага Ўсебеларускага З‘езду, палажыўшага пачатак усему Беларускаму высвабадзіцельна - адраджэнскаму і дзержаўна-незалежніцкаму руху, у гэтый час ў Менску была арганізавана Беларуская Вучыцельская Грамада.

Сваім дэвізам Беларуская Вучыцельская Грамада паставіла вось гэткія словы з верша вядомага беларускага песьняра канца дзевятнаццатага сталецьця, Янкі Лучыны (Неслухоўскага).

Сонца навукі скрозь хмары цемныя
Загляне ясна над нашай ніваю —
І збудуюць жыцьце дзеткі патомныя
Долей роўнай, долей шчасьлівай.

Каб ясна ўсьведаміць сабе напрамак працы Беларускай Вучыцельскай Грамады, неабходна адзначыць, што ў Менску да таго часу ня было а ні воднай сярэдняй ці то пачатковай школы беларускай. Беларуская моладзь змушана была вучыцца ў рускіх школах, у якіх руская мова, як выкладовая, служыла адным з многіх спосабаў праступнай царскай Расеі для русіфікацыі нашага Краю.

Таму ня дзіва, калі здарылася першая магчымасьць, моладзь адразу накінулася на беларусазнаўства, пачала займацца досьледам гісторыі роднаго Краю, географіі, літэратуры і г. д.

У Беларускай вучыцельскай Грамадзе, ў працягу кароткага часу, арганізавалася даволі такі абшырная бібліотэка. Чыталіся рэфэраты, адбываліся дыскусіі, выдаваўся свой, літографскім спосабам, друкаваны орган, быў складзен свой хор народных песьняў, тэатральная трупа, вельмі удачна ставіўшая пад кіраўніцтвам артыста—рэжысэра Флорыяна Ждановіча, спэктаклі, як у Менску, гэтак і на правінцыі, дзе разам з гэтым закладаліся гурткі моладзі.

На вялікі жаль, распачатая праца варункамі змушана была спыніцца.

Пасьля разгона большэвікамі. Першага усябеларускага З‘езду калі ўсё беларускае было обвешчана „контррэволюцыйным“ „белагвардзейскім“, калі усе жывое, сьвядомае нацыянальна-беларускае было загнана ў глобокае падзьмелле, а настаўшыя сумныя чорныя дні зьмены розных акупацый, калі з канца ў канец Беларусі праходзілі чужацкія наездцы — акупанты руйнавалі і нішчылі наш Край,—разсыпалася Беларуская Вучыцельская Грамада ў Менску.

Беларуская Вучыцельская Грамада ў Менску разсыпалася, але жыве беларуская моладзь!

У Горадні, пад польскай акупацыей у чэрвені і ліпні 1919 года, арганізоўваецца Грамада Беларускай Моладзі.

Грамада Беларускай Моладзі ставіц сабе ўжо іншыя мэты і заданьні, чымся Беларуская Вучнеўская Грамада. Ўжо наша сама і назва аб гэтым гавора. Калі Беларуская Вучнеўская Грамада ставіла галоўнай сваей мэтай сама усьведамленьня шляхам самаадукацыі і была амаль выключна вучнеўскай, дык Грамада Беларускай Моладзі гэтыя пытаньні ставіць шмат шырэй і глыбей.

Грамада Беларускай Моладзі адным з галоўных сваіх заданьняў, ставіць справу аб‘еднаньня ў адзін магутны Усебарускі Саюз усю сьвядомую Беларускую Моладзь як горада гэтак і мястэчка, гэтак і весак і засьценкаў. Кожны сьвядомы хай усьведамляе цемнага ды адсталага, кожны граматны-хай навучае чытаць і пісаць неграматнага.

Вучнеўская Моладзь горада хай будзе кіраўнікам вясковай селянскай моладзі, хай передае ей тое, што атрымлівае з школы ды з прачытаных кніг, а з другога боку хай навучаецца ў вясковай моладзі натуралізму ды рэальнаму крытыцызму, хай бярэ з невычарпаемай крыніцы простай селянскай мудрасьці ўсё, што ёсьць лепшае і прыгажэйшае.

Хай растуць новыя сілы, хай падгатаўляюцца новыя кадры змаганьнікоў за народную справу, за волю прыгнеценай і паднявольнай нашай бацькаўшчыны!

Грамада Беларускай Моладзі, за кароткі час сваего істнаваньня, зрабіла надта шмат. Аднавіліся і занова пазакладаліся „Гурткі Беларускай Моладзі ў Вільні, Менску, і шмат дзе па мястэчках і весках. Рабілася падгатаваўчая праца аб скліканьні З‘езду Беларускай Моладзі з усей Беларусі, што пад польскай аку-

пацыей, але гэтаму перашкодзіла Расейска-Польская Вайна 1920 года.

Канец 1920 году і ўвесь 1921 год праходзіць пад знакам нечуванага польскага уціску над Беларускімі культурнымі арганізацыямі і пляновага тэррору супроць актыўных культурных працаўнікоў.—Зачыняюцца Беларускія школы, забараняецца ставіць спэктаклі ў Беларускай мове, адбіраецца памешканьні ад беларускіх культурных установаў, арыштовываюцца і гнояцца ў польскіх турмах выдатнейшыя культурныя дзеячы, ўсё беларускае пад польскай акупацыйнай Уладай абвешчаецца „бальшавіцкім“ і жорстка праследуецца. Грамада Беларускай Моладзі як арганізацыя, перастае істнаваць.

Але істнуюць паасобныя гурткі, жывуць, параскіданыя па ўсёй Беларусі, сябры Грамады Беларускай Моладзі і ўпарта прадаўжаюць сваю вялікую культурную працу.

От жа, ў час вялікага ліхалецьця я зьвяртаюсь да ўсіх сяброў Беларускае Вучнеўскае Грамады, Грамады Беларускай Моладзі да усей Беларускай Моладзі нагогул вось з гэтакім поклічом:

Беларуская моладзь, Неапускай безрадна сваік рук.

Цясьней гуртуй свае рады. Хай будзе еднасьць і згода між вамі.

Усе да працы.

Больш веры ў сябе, больш веры ў свае маладыя сілы.

Добра запомні і усьведамі сабе: духа змаганьня за праўду і волю ніколі ніхто не пагасіць.

Мо хто спытаецца: як-жа быць, што рабіць?

Дык слухай, браце: ў першы чарод і насам перад, калі ты жывеш на вецы ці ў мястэчку, або ў горадзе-ўсё роўна,- зараз-жа вот сеньненька нават, закладай гурток моладзі. Склікай вечарам, а ў сьвята то і днем нават, сваіх равесьнікаў і першае чым вы павінны заняцца, гэта сьпеяць некалькі агульна вядомых песьняў народных, хай ваша маладая арганізацыя пачынаецца з песьні. Разучыця, а пасля кожны раз перад вашым сходам, або ў канцы пейця наш беларускі гімн „Ад веку мы спалі“.... Прыпамі найце народныя песьні, бо кожны з вас, хто быў хоць раз на весцы, хадзіў на ігрышчы, ды і ў сваей хаце, чуў шмат родных песьняў, гучных, мэлёдыйных, пекных,—навучвайцеся іх і пейця. Прыпамінайце казкі народныя, бо кожны з вас шмат іх ведае, апаведайце іх. Запісывайце. А колькі ў казках і песьнях народных ёсьць дзіўнай, народнай фантазіі, колькі пекнаты і пачуцьця колькі мудрасьці простай і яснай. Трэ навучыцца разумець гэтую народную мудрасьць, трэ навучыцца цаніць хараство народнай фантазіі, пекнату музыкі народнай песьні, багацьце вобразаў ў казках і пекнату нашай роднай мовы.

Хай гэткія сходы вашы завуцца: вечар песьні і казкі народнай. Запрашайце на іх і старшых, хай вам старыя

апавядаюць казкі і здарэньні з праўдзівага ўласнага жыцьця, з жыцьця вашай ваколіцы, хай вам раскажа хто небудзь пра мінулыя часы паньшчыны, як гэта людьзі калісь служылі прыгон. уважліва гэта выслухайце, а пасьля зарішсыце. Параўнайце з сучасным жыцьцем. У чым ёсьць рожніца і сходства? Якая прычына гэтаму?

Палажыця ў аснову свайго гуртка гэта як прынцып, гутарыць паміж сябе а нават з іншымі, толькі па беларуску, хто блага кажаць папраўляйце.

У сваім гуртку чытайце кнігі і часопісі, падробна разважайце над прачытаным.

Гэта ёсьць першыя крокі вашай маладой арганізацыі.

У нумары чацьвертым „Селянскай Долі“ за 1921 год у артыкуле „Сучасныя думкі“ больш падробна пісалася аб гэтым. Там была прыведзяна падробная праграма культурна - усьведаміцельнай працы. Мо ў каго яшчэ захаваўся той нумар „Селянскай Долі“. Хай прынясе уважліва прачытайце і, не адкладуючы ні на адну хвіліну, зараз-жа прыступайце да працы. Бо адклад, як ведама, ніколі ня йдзе ў лад.

Трэба навучыцца працаваць над сабой. Хай кожны возьме сабе за аснаўное заданьне: ва што-б то ні стала супроці уселякіх дробных і вялікшых перашкодісьці упарта і безупынна да раз назначанай сваей мэты.

Ну, да працы.

Хай жыве беларуская моладзь.

**А. Н-ка.**

# За нашу ганьбу.

За нашу ганьбу
Доўгу няволю, —
За зьзекі, мукі
І безпатолю

Ўстаньце адважна
Усе грамадою
Паіць зямельку
Уражай—крывею.

Гневам агністш
Помстай сьвятою
Час доўг сплачаці
Шчодрай рукою.

За нашу ганьбу
Доўгу нядолю;
За зьдзекі, мукі
І безпатолю.

Час доўг сплачаці
Дык Крывічанскі
Род пасьпешайся
Пад сцяг паўстанскі.

**Н. Н.**

# ДУМКІ ВЫ МАЕ.

Думкі вы мае,
Думкі сумныя,
Хмаркі вы мае,
Хмаркі цемная,

Гоніць хваля вас,
Гоніць ўсе зараз;
Як той легкі газ
Разплываецесь,
Разсыпаецесь;

Між ветравых хваль
Нясіцёсь вы ўдаль,
Ветрам зрушылісь
У небе скучылісь

Сонейка цемніць,
Дожд—слязу праліць.
Гулка гром граміць,
Молня зіхаціць,

Быццам гаманіць,
Стары лес шуміць
З хвалей борэцца,
З тучай сварыца.

Думка ты мая,
Беларуская!
Між ветравых хваль
Ты нясіся ўдаль,
Скажэш нашу жаль;
Молней зіхаці.

Громам заграаміць
Сонейкам сьвяці,
Ўсюду усё цяплі

Ўсіх ты там сагрэй,
Між дрыгвы балот
Прабудзі народ,
Зроб іх вясялей,

Расцьвеці як сад;
Ласку зроб і мне
Зроб, штоб я быў рад
Як калісь васьне,

Штоб шчасьлівым быў
Краем я радным,
Гора штоб забыў
Часам пагадным.

А гвалтоўнікам,
Палякам панам,
Ось як ты скажы:
Вы фацэтнікі
Ды абшарнікі,
Ўсё нікчомныя
Непрытомныя

Просім ўсіх мы вас,
Выбічайця нас,
Уцекайце ў раз
Як мага хутчэй

Вам не мейсца тут,
У вас ёсьць польскі рай
Ёсьць свой родны кут,
Зарубежны край. —

Як птушачы пух.
Хваля вас знясе
За Нарэў і Буг,
І мятлой зьмяце,

**Бараніце перад акупантамі свае добро,—каб ня былі жабракамі!**

# Што робіцца у сьвеце.

10 красавіка распачнецца ў Генуі канфэрэнцыя ўсіх Эўрапейскіх дзержаў. там будзе абмярковывацца справа-як нарыхтаваць зруйнованую вайною гаспадарку. Дзеля таго, што шмат перашкодаў у гаспадарскім жыцьці сталася, дзякуючы таму, што паасобныя дзержавы (як напрыклад Польшча) забралі шмат чужой зямлі і таму няма пэўнасьці ў сталым супакою, то магчыма на канфэрэнцыі паўстануць і палітычныя пытаньні аб пераглядзе умоў і зацьверджаньні сталых дзержаўных граніць. Ад Беларусі паедуць у Гэнуя Прэдстаўнікі Беларускага Ураду В. Ластоўскій. А. Цьвікевіч і проф. Ляцкій, каб давясьці ўсім аб крыўдах Беларускага Народу.

У Бэрліне, на першым тыдні ў Красавіку, адбываецца падгатоўчая канфэрэнцыя к зьезду прэдстаўнікоў рожных кірункаў соцыялістычных думак. Конфэрэнцыя будзе разглядаць рожныя пытаньні ў справе як вмоцніць і палепшыць становішча працоўных мас уваўсім сьвеце, а так сама зазначыць, якія дзержавы найбольш перашкаджаюць сталаму міру.

Ад Беларускіх Соцыялістаў на падгатоўчую канфэрэнцыю паехаў грам. Грыб.

У Вітэбшчыне склаўся патаемны селянскі саюз, які, паставіў сабе мэтай бараніць сваю зямлю ад польскіх наскокаў. У сваіх адозвах селянскі саюз адзначае, што за кожны наскок панскіх бандытаў будуць нішчыцца панскія двары ў Заходняй Беларусі.

Селяне буцьце вельмі асьцярожны—даверайцесь толькі пэўным вам знаемым грамадзянам; бо зьявілася шмат шпікоў, якія, карыстаючыся фальшывымі паперамі, жадаюць правацыраваць селян.

Нарыхтовывайце свае арганізацыі, пільнуйце і падтрымлівайце сваіх. Трымайце зьвязок.



**Выдавец:** Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства
**Рэдактар:** Рэдакцыйная Камісія.